# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 4 23 студзеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2250) Цана 8 кап.




Яшчэ ўчора мы з горыччу гаварылі, што нашу Беларусь мала хто ведае ў свеце, што беларусаў атаясамліваюць з рускімі. Дзіва што, калі ў Мінск замежныя госці ехалі праз Маскву, калі былая БССР гаварыла з усіх міжнародных трыбун, не выключаючы ААН, голасам Масквы!

За які месяц раптам усё перавярнулася. Рэспубліка Беларусь моцна становіцца на ногі як суверэнная дзяржава, адна з заснавальніц Садружнасці Суверэнных Дзяржаў. Замежныя пасланцы цяпер ведаюць простую дарогу ў Мінск, мінуючы высокія маскоўскія кабінеты. Ужо 60 краін свету прызналі незалежную Беларусь і спяшаюцца наладзіць з намі палітычныя, эканамічныя, культурныя кантакты. Нас адрозніваюць ад Расіі, нас знаходзяць на карце свету, пра нас піша сусветная прэса.

Каралеўства Швецыя стала першай краінай, якая ўстанавіла дыпламатычныя адносіны з Рэспублікай Беларусь.

НА ЗДЫМКУ: 14 студзеня 1992 года ў Мінску адбылося падпісанне Пагаднення аб устанаўленні дыпламатычных адносін міністрам замежных спраў Швецыі Маргарэт аф УГЛАС (злева) і міністрам замежных спраў Беларусі Пятром КРАЎЧАНКАМ.

# ЁН ВЫБРАЎ САМУЮ ЦЯЖКУЮ ДАРОГУ

## *ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Б. ТАРАШКЕВІЧА*

**«Народ беларускі прабудзіўся, і нявольнікам ён не застанецца».**

(З прамовы на судзе Браніслава ТАРАШКЕВІЧА).

20-га студзеня наш народ святкуе стогадовы юбілей з дня нараджэння аднаго з самых вялікіх сваіх сыноў — Браніслава Тарашкевіча. Бурлівы час нарадзіў вялікага змагара за шчасце народа. Перад Браніславам адкрываліся іншыя, перспектыўныя дарогі, а ён выбраў самую цяжкую, але найбольш удзячную — дарогу самаахвярнага служэння свайму пакрыўджанаму народу.

Самыя ўражлівыя гады юнака з Мецюлішак, што на Віленшчыне, прыйшліся якраз на часы найвышэйшага напружання ў Расійскай імперыі, на часы першай рэвалюцыі, калі і беларускі народ падняўся змагацца за сваё нацыянальнае права. Вільня тады стала асноўным цэнтрам беларускага адраджэнскага руху, і навучэнец 2-й Віленскай гімназіі Б. Тарашкевіч актыўна ўключаецца ў грамадскае жыццё, зближаецца з заснавальнікамі Беларускай сацыялістычнай грамады і «Нашай нівы», з Янкам Купалам і Цёткай і пад іх уплывам канчаткова выбірае свой жыццёвы шлях. А ў 1911 годзе на гісторыка-філалагічны факультэт Петраградскага універсітэта паступае з канчаткова вызначанымі мэтамі і планамі — зрабіць навуковую апрацоўку беларускай літаратурнай мовы. Ён становіцца актыўным членам Петраградскага асяродка беларускага нацыянальнага руху, членам навукова-літаратурнага гуртка, якім апекаваўся прафесар Бр. Эпімах-Шыпіла, і ўступае ў партыю (БСГ), з левага крыла якой пазней (у 1918 годзе) сфармавалася Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, куды ўвайшоў і Тарашкевіч. Пасля заканчэння курсу вучобы яму была дадзена пасада прыват-дацэнта на кафедры рускай мовы і літаратуры Петраградскага універсітэта.

Але рэвалюцыя 1917 года, затым грамадзянская вайна памянялі жыццёвыя планы. Летам 1918 года Тарашкевіч перабіраецца ў Вільню і ўключаецца ў нацыянальна-культурную работу, займаецца арганізацыяй беларускіх школ і Таварыства беларускай школы. Гэта стымулявалася яшчэ і тым, што ў сакавіку 1918 года актыўныя дзеячы беларускага нацыянальнага руху абвясцілі ўтварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і дабіваліся яе прызнання. Але акупацыйныя нямецкія, а затым і польскія ўлады адмовілі ў прызнанні, а Рыжскі дагавор 1921 года паміж Расіяй і Польшчай даў зусім іншы ход падзеям. Беларусь аказалася падзеленай на дзве часткі, у якіх па-рознаму стала складвацца жыццё. У Заходняй Беларусі на першы план выйшла палітычная барацьба, і Тарашкевіч становіцца ў цэнтры гэтай барацьбы. І ў 1922 годзе — першы вынік гэтай барацьбы: ад беларускіх зямель у Сейм выбрана 11 дэпутатаў (паслоў) і ў Сенат тры. Тарашкевіч становіцца старшынёй Беларускага пасольскага клуба. З трыбуны Сейма ён змагаецца супраць каланізатарскай палітыкі польскай улады, за надзяленне сялян зямлёй, за ахову правоў рабочых, за дэмакратычныя свабоды, у тым ліку і за дапушчэнне беларускай мовы ў адміністрацыйныя ўстановы на беларускіх землях. Кульмінацыяй барацьбы стала ўтварэнне ў 1925 годзе Пасольскага клуба Беларускай сялянска-работніцкай грамады, а затым і масавай легальнай арганізацыі БСРГ (1926 год). На чале Грамады стаў Тарашкевіч. Праграма Грамады не толькі ставіла канкрэтныя задачы барацьбы за правы ўсіх пластоў беларускага насельніцтва, але і агульную задачу — аб'яднанне абедзвюх частак Беларусі і ўтварэнне сваёй незалежнай дзяржавы пад уладай сялян і рабочых. Гэта быў масавы рэвалюцыйны рух, які напалохаў улады. Ужо ў 1926 годзе пачаліся рэпрэсіі, а ў 1927-м Грамада была забаронена, кіраўнікі арыштаваны,



і ў лютым 1928 года адбыўся суд. Тарашкевіч атрымаў 12 гадоў турмы. Масавыя пратэсты ў краіне і за рубяжом паспрыялі таму, што ў красавіку 1930 года Тарашкевіч быў вызвалены. Але ненадоўга, бо зноў уключыўся ў барацьбу з каланізатарамі. У лістападзе 1932 года ён быў засуджаны на 8 год турмы і 10 год пазбаўлення правоў. Наблізіўся і трагічны фінал. Абменены ў 1933 годзе на Ф. Аляхновіча, пазбаўлены магчымасці жыць у Беларусі і працаваць на ніве

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ПАТРАБУЮЦЬ РЭФЕРЭНДУМА

## ЦІ БУДУЦЬ НОВЫЯ ВЫБАРЫ

Кіраўніцтва Беларускай сялянскай партыі, Беларускага народнага фронта, Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай Злучнасці, Мінскага гарадскога стачачнага камітэта, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі і Свабодных прафсаюзаў рэспублікі прынялі сумесную заяву. У ёй сцвярджаецца, што «толькі новы Вярхоўны Савет (ці Сойм) і ўрад народнага даверу змогуць ажыццявіць эфектыўную эканамічную рэформу і адстаяць незалежнасць Беларусі дзеля дабрабыту яе народа».

На думку вышэйпералічаных партый, цяперашні Вярхоўны Савет Беларусі не мае ўласнай палітычнай канцэпцыі, рэальнай праграмы пераходу да рынačнай эканомікі, сваю нездольнасць засведчыў і Савет Міністраў, што праявілася ў лібералізацыі цэн, якая звялася да іх павышэння дзяржаўнымі структурамі, аднак не суправаджаецца прыватызацыяй і дэманапалізацыяй. Сцвярджаецца, што прычына гэтага — «прыналежнасць большай часткі дэпутатаў і членаў урада, выбраных у недэмакратычных умовах, да былой наменклатуры, іх некампетэнтнасць». У якасці спосабу змены ўлады прапануецца рэферэндум аб роспуску цяперашняга Вярхоўнага Савета і пазачарговыя выбары на шматпартыйнай аснове згодна новаму дэмакратычнаму закону.

Ствараецца ініцыятыўная група для збору подпісаў аб правядзенні рэферэндума. Усяго трэба сабраць 350 тысяч подпісаў.

ВАЧАМІ ВУЧОНЫХ

## НЕДАСКАНАЛАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ

Лабараторыя іерархічных шматузроўневых сістэм — першая ў Беларусі прыватная навуковая фірма, якая займаецца фундаментальнымі даследаваннямі, — правяла экспрэс-аналіз праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Асноўны вынік аналізу: бягучы стан праекта не адпавядае яго мэтам і сучаснаму ўзроўню навукі аб складаных сістэмах.

Яе спецыялісты, вывучыўшы праект новай Канстытуцыі, лічаць неабходным наступнае.

Канстытуцыя павінна мець тры раздзелы, якія б утрымлівалі дакладныя вызначэнні: міжнароднага статуса дзяржавы і яе ўзаемадзеяння з іншымі дзяржавамі; структуру дзяржавы з улікам узаемадзеяння яе асноўных сістэм; улады, якая б звязвала ўласную структурную дынаміку з яе становішчам у свеце і з дынамікай міжнароднага супольніцтва (спосабы фарміравання і дзейнасці сістэм улады залежаць ад дэкларэаваных у папярэдніх раздзелах прынцыпаў унутранай і знешняй палітыкі і ствараюць механізм яе рэалізацыі).

Па перакананню работнікаў лабараторыі, прапанаваная імі форма Канстытуцыі, акрамя зручнасці у карыстанні, яшчэ і эканамічна эфектыўная. Яна адпавядае прызнаным на міжнародным узроўні навуковым дасягненням і, акрамя таго, дазволіць знізіць выдаткі на заканадаўчую дзейнасць і яе канстытуцыйны кантроль.

Вучоныя заяўляюць, што гатовы аказаць дапамогу народным дэпутатам і іншым зацікаўленым асобам і арганізацыям у выпрацоўцы метадалагічных канцэпцый з навуковага пункту гледжання.

МЫ І СУСЕДЗІ

## ДЭЛІМІТАЦЫЯ МЯЖЫ

У Вільнюсе прайшла першая сустрэча змешанай беларуска-літоўскай камісіі па дэлімітацыі мяжы паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай.

Беларускую дэлегацыю ўзначаліў народны дэпутат рэспублікі, намеснік старшыні Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў І. Машко, дэлегацыю Літоўскай Рэспублікі — міністр краю А. Буткявічус.

Па выніках сустрэчы быў падпісаны пратакол аб напрамках далейшай работы.

Такая ж урадавая камісія з Латвіі на чале з дзяржаўным міністрам Я. Дзіневічам абмеркавала ў Віцебску з мясцовымі ўладамі пытанні, звязаныя з дэлімітацыяй мяжы, гэта значыць вызначэннем дакладнай яе лініі.

Акрамя тапаграфічных работ, трэба яшчэ ўкласці немалыя сродкі ў будаўніцтва кантрольна-прапускных пунктаў, галоўны з якіх размесціцца паміж беларускім Браславам і латвійскім Даўгаўпілсам.

У ЛЮСТЭРКУ СТАТЫСТЫКІ

## СТАРЭЕМ

Па даных Інстытута сацыялогіі АН Беларусі, смяротнасць у рэспубліцы ўзрасла з 1979 года на 0,8 працэнта. Сярэдні ўзрост насельніцтва павялічыўся з 34,1 у 1979 годзе да 35,0 гадоў у 1990 годзе. На 1 студзеня 1990 года ў гарадской мясцовасці пражывала ўсяго 6 762,4 тысячы чалавек, з іх 907,7 тысячы — асобы ў пенсійным узросце. Сельскае насельніцтва на гэты час складала 3 448,9 тысячы, з іх у пенсійным узросце — 1 094,5 тысячы. Доля пенсіянераў прыкметна павялічылася.

Працэс дэмаграфічнага старэння насельніцтва рэспублікі ўзмацняецца.

МІЛАСЭРНАСЦЬ




Па-сапраўднаму бясцэнны груз прыбыў у Мінск з Францыі— некалькі тон медыкаментаў, шпрыцы, іголкі, хірургічныя пальчаткі... Прызначаны ён для дзіцячых клінік сталіцы. А сабрала такую «пасылку» пры садзейнічанні Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі арганізацыя «Фармацэўты без межаў», якая фінансуецца ЕЭС.

Такая дапамога — не аднаразовая. Прапрацоўваецца пытанне аб сумеснай французска-беларускай фармацэўтычнай вытворчасці.

НА ЗДЫМКУ: каштоўны груз даставілі фармацэўты Даніель ПІЕБРЭТОН, Паскаль АЛЕ, вадзіцель Рамон АЛОНЗА. Справа — рэферэнт Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Яўген ЮШКЕВІЧ.

ДОМ ЗАМЕНГОФА

## СТВАРАЛЬНІКУ ЭСПЕРАНТА

На дзвюх мовах — беларускай і эсперанта — выканана мемарыяльная дошка, якая з'явілася на адным са старадаўніх будынкаў па вуліцы Кірава ў Гродне. Тут у канцы мінулага стагоддзя жыў Людвіг Заменгоф — стваральнік міжнароднай мовы, вядомай у свеце пад назвай эсперанта.

Месца жыхарства вучонага ўдалося «вылічыць» па матэрыялах першага ўсеагульнага перапісу 1895 года. Стала вядома таксама, што, жывучы ў Гродне ў 1893 — 1897 гадах, Заменгоф значыўся ў штаце вольнапрактыкуючых урачоў. У выяўленых у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь дакументах урачэбнага аддзялення Гродзенскага губернскага праўлення знайшоўся і своеасаблівы аўтограф вучонага. Гэта яго асабістая распіска ад 24 чэрвеня 1896 года са словамі: «Я, ніжэйпадпісаны, які значыцца ў запасе чыноўнікаў ваенна-медыцынскага ведамства, у выпадку вайны жадаю несці ваенна-медыцынскія абавязкі па месцу майго жыхарства ў горадзе Гродне».

Цяпер пры Гродзенскім гарадскім Доме культуры працуе клуб «Эсперанта», члены якога не толькі вывучаюць гэтую мову, але і збіраюць матэрыялы аб яго стваральніку. Яны і знайшлі дом, дзе жыў вучоны, устанавілі ў памяць аб ім мемарыяльную дошку.

КРЫЗІС

## ХОЛАДНА ЛЁГКАЙ ЗІМОЙ

Сёлетнюю зіму ў Беларусі і зімой не назавеш — ні снегу, ні марозу. А людзі ў кватэрах стынуць. Спажыванне электраэнергіі на тэрыторыі рэспублікі зменшана на 20,5 мільёна кілаватгадзін у суткі. Тэмпература вады ў сістэмах цеплазабеспячэння ў залежнасці ад тэмпературы паветра са студзеня па красавік будзе зніжана на 5 — 15 градусаў.

Такое распараджэнне выдаў беларускі ўрад. Паводле гэтага распараджэння напалавіну скарачаецца вулічнае асвятленне ў гарадах, адключаецца рэклама, і многае іншае робіцца для эканоміі электраэнергіі.

Прычына — энергетычны крызіс: рэзка зменшыліся пастаўкі нафты і прыроднага газу з Расіі ў Беларусь.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Паводле аналізу беларускай службы «Грамадская думка», рэйтынг Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча ўзрастае. У жніўні мінулага года яму аказвалі давер 21 працэнт апытаных, на пачатку снежня — 35, а ў канцы таго ж месяца — 51 працэнт.

● На будынку Дома ўрада ў Мінску з'явіліся новыя шыльды, напісаныя залачонымі літарамі: «Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і «Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь». Кажуць, што старыя шыльды, на якіх красавалася «БССР», будуць прададзены ахвотнікам рарытэтаў за валюту.

● На паліто кітайскай вытворчасці, якое ладны час вісела ў гродзенскім магазіне «Адзенне», нарэшце знайшоўся пакупнік. Паліто каштавала ўсяго... 11 770 рублёў. Цяпер чакае свайго ўладальніка другое паліто, коштам 19 040 рублёў.

● Азяранская школа ў Рагачоўскім раёне адзначыла не абы-які юбілей — сваё 200-годдзе. Некалі тут вучыліся дзеці з усіх паветаў Паўночна-Заходняга краю. Цяпер яе наведваюць 130 вучняў.

● На радзіме Ф. М. Дастаеўскага ў сяле Дастоева Іванаўскага раёна пачата будаўніцтва царквы, якая па загаду мясцовых улад была знішчана ў 1962 годзе. Ранейшая царква называлася Свята-Троіцкай, настаяцелем яе некалі быў дзед вялікага пісьменніка і нашага славутага земляка.

● Прымаць адразу 16 праграм зарубежных і айчынных тэлестудый атрымалі магчымасць жыхары вёскі Зэльвянка Зэльвенскага раёна. Мясцовы калгас амаль цалкам аплаціў установку парабалічных антэн, настроеных на спадарожнік «Астра».

● Нарэшце ўладкаваўся на працу былы першы сакратар Віцебскага абкома КПБ Уладзімір Грыгор'еў. Агранам па адукацыі, ён стаў генеральным дырэктарам вытворчага аб'яднання «Даламіт». Былога дырэктара далі Грыгор'еву ў намеснікі.

● Сховішчы архіва КПБ, якія былі апячатаны ў жніўні мінулага года, ускрыты, і пачалася перадача партыйных дакументаў у нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Такі архіў ствараецца на базе былога сховішча сакрэтных дакументаў Кампартыі Беларусі.

ЦАРКОЎНАЯ МЕДЫЦЫНА



Упершыню ў нашай рэспубліцы афіцыйны статус набыла царкоўная медыцына. У карпусах сталічнай водагразелячэбніцы Белсаветкурорта, што размешчаны на вуліцы Макаёнка, пачаў працаваць медыцынскі цэнтр Беларускага экзархата «Самаранін». Урачы цэнтра, падабраныя на конкурснай аснове, робяць упор на лячэнне нетрадыцыйнымі метадамі, у аснове якіх ляжаць міласэрнасць і спагада да пацыентаў. Медыкаменты прымяняюцца толькі ў крайнім выпадку.

Узначаліў хрысціянскі медыцынскі цэнтр яго стваральнік свяшчэннік мінскай царквы Святой Марыі Магдаліны урач-псіхіятр айцец ІГАР, па-свецку Ігар Варабей (на здымку злева).

*АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ*

# ТРЭЦІ ЛІШНІ

Вядома ж, гэтым «трэцім лішнім» была заўсёды Беларусь, беларускі народ, без удзелу якога, за плячамі якога і за кошт якога нашы вяльможныя суседзі выгашалі і задавальнялі свае інтарэсы.

Двухбаковыя дагаворы і пагадненні, што заключаліся суседнімі з Беларуссю дзяржавамі (Брэсцкі дагавор 1918 года, дагаворы паміж Расіяй і Літвой ад 12 чэрвеня 1920 года, СССР і Літвой ад 10 кастрычніка 1939 года і інш.), не ўлічвалі інтарэсаў Беларусі і вяліся з парушэннем этыкі і норм міжнароднага права, без удзелу беларускіх дэлегацый.

Але ні беларускі ўрад, які не мае выразнай незалежнай нацыянальнай праграмы, ні розныя партыі, што так і цікуюць, каб укусіць адна другую і паказацца перад грамадскасцю самай радыкальнай сілай, ні, нарэшце, сама грамадскасць, атручаная дурманам інтэрнацыяналізму, уяўнай дружбы народаў, не хочуць (ці не здольны?) бачыць праўдзівай гісторыі адносін паміж Беларуссю і Літвой. Заплюшчваюць вочы на тое, што здарылася з Віленшчынай у 1939 годзе па прыхамаці Сталіна.

Для апраўдання рашэнняў аб перадачы Літве заходнебеларускіх зямель, што былі прыняты ў 1939 годзе ў Маскве і Берліне, вось ужо паўстагоддзя праводзіцца на дзяржаўным узроўні мэтанакіраваная палітыка дэзінфармацыі і хлусні, якая дала пэўныя вынікі, прывяла да ўсталявання ў прэсе і сярод насельніцтва сфальсіфікаваных (пралітоўскіх) уяўленняў аб гісторыі руска- і беларуска-літоўскіх адносін, у прыватнасці аб «уз'яднанні» Вільні і Віленскага краю з Літоўскай рэспублікай.

Аб гэтай балючай праблеме пішуць у лісце ў «Звязду» («Гісторыя не церпіць перакосаў») акадэмік Р. Гарэцкі, гісторык М. Ермаловіч, пісьменнікі Я. Лецка, М. Лужанін, Б. Сачанка, навуковец В. Сіўчык, этнографы А. Ліс і С. Цярохін.

Ва ўмовах таталітарнай, аднапартыйнай сістэмы ўсе ідэалагічныя і інфармацыйныя службы былі аднабакова арыентаваны на апраўданне тэрытарыяльных уступак Літве (за кошт Беларусі), з горыччу сцвярджаюць вядомыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Аднак і ў наш час, калі выявіўся непазбежны крах бальшавіцкай ідэалогіі і практыкі, прадстаўнікі новага дэмакратычнага руху і антыкамуністы, што аказалі падтрымку Літве ў барацьбе з цэнтрам, па інерцыі салідарызуюцца з літоўскімі ўладамі і ў пытанні беларуска-літоўскіх дачыненняў і гістарычнага лёсу Віленскага краю. Не толькі саюзныя, але і беларускія пракамуністычныя ўлады і прадстаўнікі дэмакратыі, кожны па сваіх меркаваннях, прадаўжаюць ісці ў кільватары старых агульнасаюзных канцэпцый і палітычных стэрэатыпаў, цураючыся поўнай гістарычнай праўды і аб'ектыўнай ацэнкі ўпамянутых дагавораў 1939 года. Афіцыйныя ўлады і сродкі масавай інфармацыі прадаўжаюць прапагандаваць спрошчаныя палітычныя схемы, зручныя толькі двум дагаворным бакам (Літве і былому СССР). Блакіруюцца аб'ектыўная інфармацыя і грунтоўны навукова-палітычны аналіз пытання.

Пры такіх варунках перамовы паміж прадстаўнікамі Беларусі і Літвы, відавочна, будуць працякаць у неспрыяльных для нас умовах. Можна меркаваць, што чарговы раз у ахвяру палітычнай кан'юнктуры будуць аддадзены нацыянальныя інтарэсы беларускага народа, этнічная тэрыторыя якога (тая ж бацькаўшчына) скарачаецца, як шагрэневая скура.

Бачачы рэальную пагрозу летувізацыі беларусаў Віленшчыны, аўтары памянёнага ліста вымагаюць ад урада нашай рэспублікі правядзення такой палітычнай стратэгіі і тактыкі ў нацыянальным пытанні, якія дазволілі б вярнуць віленскім братам гістарычную памяць, каб Беларусь не ўяўлялася ім «забраным краем». А між тым і сёння замоўчваюцца нязручныя факты, апраўдваюцца сумніцельныя канцэпцыі, прыдумваюцца суцяшальныя байкі наконт той, што, бачыце, «самая дружалюбная» Літва шчыра турбуецца аб шматлікай беларускай дыяспары, цудам уцалелай пасля шматгадовага этнацыда.

Палітычная гульня ў «трэцяга лішняга» была прапанавана літоўскімі дыпламатамі і ў наш час у адносінах да беларуска-літоўскага размежавання і, як сведчыць наша прэса, пазітыўна была ўспрынята беларускім урадам і прадстаўнікамі дэмакратычнага руху. На гэты раз літоўскае кіраўніцтва, дыктуючы свае правілы гульні, імкнецца паглыбіць раскол сярод суседніх славянскіх краін і не дапусціць «трэцяга лішняга» — Расію — да ўдзелу ва ўрэгуляванні міжэтнічных узаемаадносін, хаця пытанне якраз і датычыць ацэнкі і перагляду двухбаковых імперскіх дагавораў паміж Літвой і Расіяй.

Аўтары ліста лічаць, што нашым палітыкам і дзяржаўным дзеячам, якія надта заклапочаны, што пра іх падумаюць і скажуць суседзі, трэба цвёрда стаяць на абароне перш за ўсё сваіх нацыянальных інтарэсаў.

Некаторыя палітыкі лічаць гэта адзіным і найлепшым спосабам палітычнай дзейнасці, каб захаваць да сябе павагу і ўмацаваць дружбу суседніх народаў. Аднак раўнапраўныя добрасуседскія адносіны — гэта не абстрактныя пажаданні, а рэальныя

(Заканчэнне на 5-й стар.).

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# «ЖЫВІЦЕ БЕЗ МЯНЕ»

Кампрамісную пазіцыю адносна Лёсікавых змяненняў беларускага правапісу займаў нават такі буйны спецыяліст у галіне мовы, як Сцяпан Некрашэвіч. Пагадзіўшыся літаральна з усімі новаўвядзеннямі Язэпа Юр'евіча, ён настаяў толькі на двух змяненнях у правапісе: прыназоўнік «бяз» і адмоўная часціца «ня» набылі сучасны выгляд — «без» і «не».

Аднак сваімі вынікамі і ходам правядзення Акадэмічная канферэнцыя задаволіла далёка не ўсіх. У прыватнасці, вялікае незадавальненне выклікала яна ў кіруючых колах рэспублікі. Па-першае, без узгаднення з імі зрабіў даклад аб стане асветы ў Савецкай Беларусі народны камісар Антон Баліцкі, а паколькі на канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі замежных краін — Германіі, Польшчы, Літвы, Латвіі, гэта нікуды няварта... Па-другое, залу ўпрыгожылі выключна беларускай сімволікай... Ды і 3 000 рублёў, патрачаных на прыём гасцей і дэлегатаў канферэнцыі, мулялі некаторым вочы.

Але не гэта галоўнае. З пазіцый сённяшняга дня відавочна іншае: вынікі і ход Акадэмічнай канферэнцыі беларусаў не спадабаліся Маскве. Партыйныя лідэры Беларусі другой палавіны дваццатых гадоў — і найперш прысланыя з «цэнтра» першыя сакратары ЦК КПБ(б) спачатку Ян Гамарнік, а потым Канстанцін Гей — пасылалі ў Маскву трывожныя сігналы аб «адраджэнні беларускага нацыяналізму», спробах беларусізацыі нацыянальнай культуры, навукі, асветы... Так спакваля і назапашваліся факты, прыклады і аргументы для наклейвання ярлыкоў «нацдэмаў» і «ворагаў народа», якое пачнецца літаральна праз некалькі гадоў.

...У ліпені 1930 года акадэмік Лёсік паехаў на курорт у Мацэсту, каб хоць крыху паправіць сваё слабое здароўе: ссылка ў 1911-м у Сібір не-не ды і нагадвала аб сабе. Аднак прайсці курс лячэння поўнасцю яму не ўдалося. Аднойчы адвячоркам у ягоны нумар пастукаліся незнаёмыя людзі. Прад'явіўшы пасведчанні супрацоўнікаў ДПУ, яны прапанавалі Язэпу Лёсіку сабраць рэчы і пайсці з імі...

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 1—3).

Прыбыўшы ў сталіцу Беларусі, Лёсіка здалі турэмным уладам ДПУ. А ў доме акадэміка на Шпітальнай вуліцы пачаліся рупныя вобыскі.

Успамінае Алеся Язэпаўна Лёсік, дачка Язэпа Юр'евіча:

— За сведку дэпэушнікі ўзялі дзядзьку Антона — ён жыў з намі ў адным доме. Гэта быў страшэнны малюнак. Перетрэслі літаральна ўсё. Асабліва пільна ўглядаліся агенты ДПУ ў татавы рукапісы, газеты, часопісы — і найперш дарэвалюцыйных часоў выдання. Большасць з усяго гэтага потым бясследна знікла.

Спачатку сям'ю перасялілі з чатырох пакояў у адзін, а потым наогул прапанавалі перабрацца ў іншае якое-небудзь месца. Мама знайшла кватэру на Даўгабродскай — каля Залатой горкі. Новыя гаспадары, а неўзабаве і суседзі ўжо сталіся на нас насцярожана: маўляў, «ворагі народа»...

Ванду Лявіцкую нікуды не бралі на работу. А сям'і ж з пяці чалавек — яна, яе маці — жонка Ядвігіна Ш. і трое малалетніх дзяцей — трэба было жыць... Уладкоўвалася часова, у тым ліку і на адну з выставак у Мінску, дзе мыла посуд, прыбірала памяшканне. Так працягвалася два гады.

Неўзабаве пачалі праводзіць пашпартызацыю насельніцтва гарадоў. Кожнаму даросламу выпісвалі пашпарт — асноўны дакумент чалавека. Маме яго не далі і сказалі, што сям'я Лёсіка наогул павінна пакінуць Мінск...

А сам Язэп Лёсік тым часам быў ужо далёка ад роднай старонкі. Паўгода чакаў ён у мінскай турме ДПУ «прыгавору». Следчыя падрабязна вывучалі «дакументы», вышуквалі падставы, каб прад'явіць абвінавачванне ў нацдэмаўскай дзейнасці. Судовы працэс над Лёсікам і іншымі дзеячамі намячаўся на люты 1931 года. Аднак так і не сабраўшы дастатковую колькасць матэрыялу для вынясення прысуду, іх вырашылі саслаць у парадку адміністрацыйнага пакарання ў Паволжа. Язэп Юр'евіч атрымаў пяць гадоў ссылкі ў Саратаўскую губерню.

Сабраўшы няхітры рыштунак, Ванда Лявіцкая з маці і дзецьмі накіравалася ў дарогу. Наўрад ці адчувала яна, што пакідае родны кут і дарагую сэрцу Беларусь назаўсёды...

Першапачатковы прытулак Лёсікі знайшлі ў паволжскім горадзе Камышын. Работы бацьку там, аднак, не далі, і сям'я перабралася ў суседні Нікалаеўск, дзе беларускаму акадэміку прапанавалі выкладаць рускую мову і літаратуру ў мясцовым педагагічным тэхнікуме.

Тэрмін ссылкі заканчваўся ў 1936-м. Трэба было думаць пра будучае жыццё, і Язэп ад саратаўскіх турэмных улад двойчы атрымлівае дазвол з'ездзіць у Мінск, каб пахадайнічаць аб вяртанні на радзіму. Першы раз, аднак, яго ніхто не захацеў нават паслухаць... У другі прыезд Лёсік меў ужо на руках паперу за подпісам М. Калініна, у якой гаварылася, што ён і ягоная сям'я могуць пераязджаць у любое месца. Але, дасканала вывучыўшы дакумент, у беларускай сталіцы Язэпу Юр'евічу сказалі: ні ў Мінску, ні ў іншых гарадах Беларусі — нідзе яму месца няма.

Ён спрабуе ўладкавацца на працу дзе-небудзь паблізу ад роднага краю — у Бранску, Навазыбкаве. Нічога не атрымліваецца і з гэтай задумы. І толькі на невялічкай станцыі Злынка — непадалёк ад Навазыбкава — Лёсіка пагадзіліся прыняць выкладчыкам рускай мовы ў мясцовую школу. Тут закончылі вучобу і дзеці. Сын Юра, скончыўшы дзесяцігодку на «выдатна», спачатку падаўся ў аўтадарожны інстытут у Саратаве, але потым перавёўся ў адну з ВНУ Масквы, дочкі ж Люся і Алеся пажадалі стаць педагогамі.

Праца ў школе Язэпа Юр'евіча не задавальняла. Неўзабаве сям'я зноўку сабралася ў дарогу: у горад Аткарск Саратаўскай вобласці, дзе былому акадэміку прапанавалі месца выкладчыка ў педагагічным тэхнікуме. Там і «знайшлі» яго супрацоўнікі НКУС чарговы раз...

Алеся Язэпаўна Лёсік працягвае:

— Быў дажджлівы вечар, сумны і нудны... «Можа прыйсці злодзей, ці не праўда?» — пажартавала я.

«І хто-небудзь яшчэ...» — дадаў бацька.

Ён ведаў, што зноў пачаліся арышты, у прыватнасці, забралі ўжо былі і дырэктара педтэхнікума.

Энкавэдэшнікі з'явіліся нечакана і адразу ж узяліся за справу. Вобыск быў павальны, перабралі літаральна кожную рэч, кожную рэч, кожную татаву паперчыну. Зноў забралі шмат чаго, у тым ліку і рукапіс падручніка для вучылішчаў «Русский язык. Синтаксис», над якім тата працаваў апошнім часам. Прыхапілі нават бабулін малітоўнік на польскай мове, хоць мама настойліва даказвала, што гэта ніякая не палітычная кніга...

Два з палавінай гады прасядзеў на гэты раз тата ў турме. У 1940 годзе праз добрых людзей ён перадаў нам паштоўку. «Жывіце без мяне... Ваш тата», — было напісана ў ёй. Як потым паведамілі нам улады, ён памёр ад туберкулёзу ў саратаўскай турме № 2.

9 ліпеня 1959 года сям'я Язэпа Юр'евіча атрымала ягоную двухмесячную зарплату — 1 920 рублёў. «З выпадку рэабілітацыі вашага мужа», — сведчыў запіс у самім пераводзе, што прыйшоў праз пошту нявядома адкуль.

Ванда Антонаўна Лявіцкая паставіла перад сабой цяжкую мэту: дабіцца афіцыйнай рэабілітацыі мужа. Яна паехала ў Мінск, каб ва ўсім, нарэшце, разабрацца. І найперш паспяшалася ў Пракуратуру БССР.

Ёй сказалі, што адкажуць пісьмова.

У тым жа 1959-м Ванда Антонаўна і сапраўды атрымала ліст:

«Ваша жалоба на неправильное осуждение в 1931 году Вашего мужа Лёсика Иосифа Юрьевича Прокуратурой БССР рассмотрена. Указанная жалоба оставлена без удовлетворения, так как проверкой в порядке прокурорского надзора дела по обвинению Вашего мужа установлено, что осужден он был правильно и оснований для реабилитации нет.

**Заместитель прокурора БССР государственный советник юстиции В. ГОНЧАРОВ**
**26 августа 1959 г.»**

Рэабілітацыі мужа Ванда Антонаўна не дачакаецца: яна памрэ роўна праз дзесяць гадоў — у 1969-м. Міне яшчэ амаль што два дзесяцігоддзі, і Язэп Юр'евіч Лёсік будзе ў рэшце рэшт рэабілітаваны. Гэта здарыцца 10 чэрвеня 1988 года. А ў маі 1990-га пастановай Савета Міністраў БССР Я. Лёсік адноўлены ў званні акадэміка Акадэміі навук Беларускай ССР.

* * *

«Жывіце без мяне...» З крыўдай і болем у сэрцы і на душы пісаў Язэп Лёсік гэтыя апошнія ў жыцці словы. Усяго толькі тры словы, а які вялікі сэнс тоіцца ў іх! Ён звяртаецца не толькі да сям'і, а і да ўсіх нас, беларусаў. Заклікае да галоўнага — жыць! На вялікі жаль — без яго самога...

У сярэдзіне трыццатых, калі Язэп Юр'евіч пакутаваў ужо ў ссылках і турме, наша рэспубліка займала вядучае месца ў краіне ў галіне асветы, навукі і культуры. У больш чым сямі тысячах школ вучылася 1 мільён 256 тысяч дзяцей, у вышэйшых навучальных установах і на рабочых факультэтах — 22 тысячы студэнтаў. У нас выходзіла 175 рэспубліканскіх, абласных і раённых газет — пераважная большасць на роднай беларускай мове. Беларусь мела 1 600 навуковых работнікаў, з іх 150 — прафесароў. На дзесяць тысяч чалавек насельніцтва 30 вучылася ў ВНУ. Для параўнання: у перадавых на той час заходніх краінах гэтая лічба не перавышала 17.

Тое, што ўсяму гэтаму самым непасрэдным чынам у вялікай ступені спрыялі Лёсікавы падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, ніхто, на вялікі жаль, не задумваўся, не тое што каб паімкнуўся ўзяць пад увагу...

А ён, сапраўды вялікі Асветнік, пакутаваў тым часам за Дабро.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

# ПАСЛАННЕ

# СІНОДА БЕЛАРУСКАГА ЭКЗАРХАТА

## НАПЯРЭДАДНІ 1000-годдзя ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ

*«І мы бачылі і сведчым, што Айцец паслаў Сына Збавіцелем свету»* (1 Ін. 4, 14).

Любасныя ў Госпадзе пастыры, манахі і ўсе багабаязныя чады Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Ад усёй душы і ад усяго сэрца віншуем вас з вялікім і збаўленчым святам Нараджэння Хрыстовага і Наваголдзем!

Бацькаўшчына і народ наш перажываюць адказны і цяжкі час, і таму цяпер асабліва важна ўсвядоміць яўлены чалавечаму роду цуд міласці Бога Айца.

Гасподзь наш Ісус Хрыстос у гутарцы з тайным вучнем Сваім Нікадзімам адкрывае яму сэнс Свайго прышэсця на зямлю, кажучы: **«Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына Свайго адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, а меў жыццё вечнае». І кажа далей: «...не паслаў Бог Сына Свайго ў свет, каб судзіць свет, а каб свет збаўлены быў праз Яго»** (Ін. 3, 16-17).

З гэтых слоў мы бачым, што ў збавенні чалавека і свету дзеля Вечнага Жыцця Сынам Божым заключаецца найвялікшы сэнс Яго ўчалавечання, Яго Нараджэння.

Будзем маліць Бога, каб гэтая праўда пра Вечнае Жыццё, угатаванае нам у Хрысце, з адмысловаю сілай адгукнулася ў нашых сэрцах, у сэрцах жыхароў Беларускай краіны, якая тысячу гадоў таму назад прыняла апостальскую мілату праз пастаўленне праваслаўнага епіскапа ў старажытным горадзе Полацку. **Менавіта 1000 гадоў назад у 992 годзе пераможны голас Евангельскай пропаведзі пра збавенне ў Хрысце ва ўсёй паўнаце сваей дасягнуў нашай Бацькаўшчыны.** І таму, дарагія суграмадзяне, 1992 год нам з вамі — год юбілейны, святочны, дабраславены.

Дальнабачнае было заснаванне епіскапскай кафедры ў Полацку неўзабаве пасля Хрышчэння Русі, калі святы роўнаапостальны Вялікі князь Уладзімір, маючы клопат пра належнае кананічнае царкоўнае ўладкаванне на тэрыторыі ўдзельных княстваў, пачаў, паводле сведчання Жыцця свяціцеля Ляонція, епіскапа Растоўскага, «ставити на иных градех епископы: в Новгороде, в Полтеске, в Волынскую землю». Адначасова з гэтым Вялікі князь паслаў сваіх сыноў у іхнія ўдзелы, наказаўшы ім ва ўсім «с епископы советовати».

Заснаванне Полацкай епархіі дало пачатак не толькі царкоўнаму ўладкаванню на Беларускай зямлі, але з'явілася і найважнейшай пачатковай падзеяй у грамадзянскай гісторыі Беларусі. З утварэннем епіскапскай кафедры Полацк стаўся духоўным цэнтрам, з якога пашыралася святая хрысціянская вера — аснова маральнага адраджэння беларускага народа; пачынаючы з яго, — Полацка,— пайшла свая школа храмабудаўніцтва, асветы, настаўніцтва і рамёстваў.

Ужо ў 90-х гадах X стагоддзя пачало зароджвацца ў Полацкай зямлі паслушніцкае жыццё, якое праз кароткі час дасягнула нечуванага росквіту. Сярод першых яго сейбітаў па годнасці стаіць імя прападобнай Еўфрасінні, ігуменні Полацкай, якая «яко луча солнечная просветила землю Полотскую». У далейшыя два стагоддзі праславіліся святасцю свайго жыцця свяціцелі Міна, Дзіянісій і Сімяон, епіскапы Полацкія.

Як у ранні перыяд пашырэнне хрысціянскай веры ў Полацкай зямлі вызначалася міралюбнасцю і непрымусовасцю, так і ў сучасным сваім служэнні Беларуская Праваслаўная Царква следуе гэтай традыцыі, якая ляжыць у яе ратавальным заснаванні. Тысячу гадоў Царква, якая часамі сама перажывала ліхалецці і зведала на сабе несправядлівасць, жорсткасць, здраду, людскую пагарду, дзеля выканання свайго прарочага паклікання далей клапоціцца пра маральнае выхаванне людзей, пра зацверджанне ў іх Евангельскіх пачаткаў і ўсведамленне сваёй Боскай годнасці як вянца Стварэння. Мае клопат Царква і пра ўмацаванне сямейных апораў, пра настаўленне ўсіх нас у дзеях мілажалю, міласэрнасці і дабрачыннасці, заклікаючы **«жыць ціхмяна, рабіць сваю справу і працаваць сваімі рукамі»** (1 Фес. 4, 11).

**Заснаванне Полацкай епархіі адначасова з дзяржаўным будаўніцтвам сцвярджала ў гэтым княстве яго самастойнасць і паступова ўводзіла яго пад імем Белай Русі ў сям'ю еўрапейскіх народаў.**

Пашыраючы хрысціянства ў старажытнабеларускіх землях, Праваслаўная Царква кіравалася ўсходняй традыцыяй, якая ўзыходзіць да святых роўнаапостальных Мяфодзія і Кырыла, настаўнікаў славянскіх. Гэтая традыцыя мае ў аснове захаванне і развіццё нацыянальнай культуры і мовы, што дае магчымасць усім народам успрымаць і выказваць слова Божае на іх роднай мове і што па-майстэрску пацвердзіў сваім перакладчыцкім і выдавецкім подзвігам славуты сын горада Полацка Георгій-Францішак Скарына. Так Кірыла-Мяфодзіеўская мова сталася найважнейшым сродкам евангельскай асветы і самабытнага развіцця продкаў усіх славянскіх народаў. І сёння яна ляжыць у аснове літургічнай мовы нашай Царквы, сведчачы пра спаконвечную гістарычную і духоўную супольнасць беларускага, рускага і ўкраінскага народаў.

Узнясем жа хвалу і падзяку Таму, Хто нарадзіўся, уваскрэс і Сабою ўсё ўваскрэсіў, Госпаду Ісусу Хрысту за яго прабыванне з намі і годнасна ўчынім святкаванне 1000-годдзя Святога Праваслаўя на Беларускай зямлі!

Любасныя браты і сёстры!

Насталы год будзе нялёгкім выпрабаваннем. Але згадаем мужнасць нашых святых суайчыннікаў, у зямлі Беларускай распраменяных, і пастараемся прыпадобніцца ім у веры і праведнасці жыцця, памятаючы пра галоўнае — што **мэта жыцця чалавечага палягае ў здабыцці Духа Святога, у дасягненні Вечнага Жыцця — Царства Нябеснага.** Для кожнага чалавека, як і ўсяго народа, гэта азначае заўсёднае падтрыманне ў сабе любові да блізкага, да другіх людзей і народаў. Дык жа выканаем волю Хрыстовую і Яго закон, які прадпісвае нам любіць блізкага і класці душу за сяброў сваіх (Ін. 15. 13)!

Мы спадзяемся, што ў нашых урачыстасцях, якія адбудуцца 25—27 верасня наступнага года, возьмуць удзел праваслаўныя хрысціяне з іншых дзяржаў і замежных краін, каб адзіным сэрцам і адзінымі вуснамі сведчыць на старажытнай зямлі Белай Русі паўнату ісціны, святасці і мілаты, якімі жыве Святая Праваслаўная Царква. Амінь.

**+ ФІЛАРЭТ,**
Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі,
Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі

**+ МАКСІМ,**
Архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі

**+ КАНСТАНЦІН,**
Епіскап Брэсцкі і Кобрынскі

**+ ДЗІМІТРЫЙ,**
Епіскап Полацкі і Віцебскі

**+ СТЭФАН,**
Епіскап Пінскі і Лунінецкі

**+ АРЫСТАРХ,**
Епіскап Гомельскі і Мозырскі.

20 снежня 1991 года, г. Менск.

## ВІНШАВАННІ ЗЕМЛЯКОЎ

**Добры дзень, сябры!**

**Хутка будзе Новы, 1992 год. Мне вельмі хочацца павіншаваць вас усіх з лепшай будучыняй. З новай сілай, з новым духам, з добрай будучыняй усіх вас, а таксама вашы сем'і і знаёмых.**

**Мая дарагая Беларусь! Хаця я пахадзіла мала па тваёй зямлі, нарадзілася ў Барысаве, — кланяюся маёй роднай зямлі. Жадаю лепшых дзён, поспехаў!**

**Заўсёды з павагай**

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

**Паважаная рэдакцыя «Голасу Радзімы»!**

**Сардэчна вас віншуем з Новым, 1992 годам і жадаем вам вялікіх поспехаў на будучыню ў вашай вялікай рабоце.**

**А. КУЛІНІЧ.**

Францыя.

**Паважаны рэдактар газеты «Голасу Радзімы»!**

**Ад усёй душы мы віншуем вас з Новым, 1992 годам! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці і добрых поспехаў «Голасу Радзімы» за рубяжом! Жадаем роднай радзіме Беларусі ўсяго добрага. Шчасця і радасці! Мы вып'ем віна за ваша здароўе! І за нашу Радзіму!**

**З павагай да вас**

**Надзея ОСТЭРБАН-ГАЛІЁНКА.**

Галандыя.

## З УВАГАЙ ДА ЧАЛАВЕКА





**Плата тут чыста сімвалічная. Усяго за адзін рубель у прафілакторыі «Купалінка» гродзенскага вытворчага аб'яднання «Азот» супрацоўнікам прадпрыемства прадастаўляюцца двухмесны нумар і ўсе ўмовы для папраўкі здароўя. Зрэшты, самому аб'яднанню кожныя суткі да гэтага рубля даводзіцца дакладваць яшчэ семдзесят.**

**Не адну тысячу штогод выдзяляе са сваіх сродкаў прадпрыемства на рэалізацыю прынятай тут сацыяльнай праграмы. Клопат пра чалавека праяўляецца і ў вялікім, і ў малым. Так, у работнікаў аб'яднання не ўзнікае праблем, калі да якой-небудзь урачыстасці неабходны букет кветак. Дастаткова толькі падаць заяўку ў сваю цяплічную гаспадарку. Уласная станцыя тэхнічнага абслугоўвання, аснашчаная наўноўшым дыягнастычным абсталяваннем венгерскай фірмы «Елкон», вызваліла ад многіх клопатаў аўтааматараў. Хутка з'явіцца свой каўбасны цэх. Закупленае для яго югаслаўскае абсталяванне неўзабаве будзе запушчана. Але галоўная праблема, якую ім-кнецца вырашыць сваімі сіламі «Азот», — забеспячэнне працаўнікоў прадпрыемства жыллём. У пасёлку Берагавы растуць катэджы, дзе справіць наваселле не адна шчаслівая сям'я.**

**НА ЗДЫМКАХ: катэджы ў пасёлку Берагавы; у цяплічнай гаспадарцы аб'яднання кветавод Аляксандра ЛАПА.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

# БІРУТА

## АПАВЯДАНЬНЕ

**Міхась КАВЫЛЬ**

...Эх, БІРУТА!.. І чаму ты такая бессардэчная?.. Ну, баялася перапісвацца з «ворагам народу», «нацдэмам», — не адказвай на лісты, і ўсё... За што-ж ты мне нож у сэрца ўсадзіла? І як толькі твая беленькая, такая кволенькая ручка на такое паднялася: «Ня пішы мне болей, бо я выйшла замуж...» Лёгка мне, думаеш, было гэтыя забойчыя словы чытаць? О, ты ня ведаеш, як я пакутаваў, як я перажываў. Я падымаўся да сонца й валіўся, як сноп, стомлены цяжкай працай у катлаване, а ўсё-ж думаў пра цябе, пра наша спатканьне. Я ня ведаў, дзе мы спаткаемся. У Менск мне ўезд забаронены — «рэжымны» горад — але я думаў, спадзяваўся на некае цуда. І яно сталася: мяне выклікалі ў Трэйцюю частку Пятага Аддзелу Дальлагу ОГПУ... Але гэта яшчэ ня было цуда. Усіх, хто падлягаў звальненьню з канцлягера, туды выклікалі. Цуда сталася, калі я зманіў начальніку 3-й часткі, а той мне паверыў, што Грэзак, мой родны Грэзак, ляжыць на 200 кілямэтраў далей ад мяжы з Польшчай, як Грозаў... Каб, ня дай ты Божа, ён быў крыху пісьменны, не пабачыў-бы я ў сваіх руках ліцера, а пайшоў-бы ў карцэр за ману, з палітычнай ахварбоўкай... А я-ж маніў без усялякай «ахварбоўкі», рызыкаваў толькі дзеля таго, каб пабачыць цябе, Біруta. І вось сягоньня стаю на пэроне менскага вакзалу й не магу дрыжыкі ўтаймаваць. У вушах, як тая лягерная сырэна, скуголяць словы начальніка Менскага чыгуначнага ГПУ, ад якога я толькі што выйшаў. А мог і ня выйсьці. Гэты менскі «страж рэвалюцыі» болей, відаць, адукаваны за таго далёкаўсходняга, дадумаўся, мабыць, што мне праз памылку ліцер у пагранічную паласу выпісалі: «Чаго ты ў Менск прыехаў? — дапытваўся. — Чаму ня ехаў у Слуцак праз Магілёў, а загнуў дугу ў Менск?.. Га?.. Назад у канцлягер захацелася?.. Спадабалася табе там?.. Га?..» Каб яму так жыцьцё падабалася! Зманіў і гэтаму: «Спраўку, кажу, трэба ўзяць у Пэдтэхнікуме, дзе вучыўся...» Блісқаў, бліскаў, як маланка, вірлатымі вачыма то на ліцер, то на сэксота, які мяне затрымаў і ў ГПУ прывалок, а пасьля кінуў мне ліцер і гаўкнуў:

— Ідзі, бяры даведку, і каб сягоньня-ж я цябе болей у Менску ня бачыў!.. Ясна?..

Каб яго так пярун ляснуў, як мне ўсё «ясна» — ніякая даведка мне не патрэбна, бо маю аж дзьве. Не даведка, а ты, Біруta, прывяла мяне ў Менск... І я даведаюся ўсю праўду. Я ня веру, што выйшла замуж. Ня веру...

Злуецца вецер. Хапае блакітныя іскры з трамвайных дратоў. Пякуцца іскры. Шпурляе іх вецер на дах трамваю, у полымя кляновых лістоў ускрай ходнікаў. Над няўклюдным гмахам Дому Ўраду трапечацца, бы ў спалосе, чырвонае палотнішча. Чырвонае, набрынялае крывёю... Ня хочацца пра кроў думаць. Вось і Біруta насіла чырвоны капялюшык. Як ён быў ёй да твару, ружова-бялявага. Як сонца. І сама яна сьвяцілася нейкім патаемным, прывабным сьвятлом. А якая недакранальная. Колькі разоў спрабаваў узяць пад руку, каб не пасьлізнулася... Дзе там! «Сорамна так хадзіць, — кажа. — Мы-ж ня муж з жонкай, а толькі добра знаёмыя...» І то праўда, і няпраўда: мы й добра знаёмыя ня былі. Што я пра яе ведаў? Амаль нічога. Літоўка. Мае матулю, сястру... І ўсё. Ды як-жа я мог што ведаць, калі ні разу й не пагутарыў, як трэба. Скажу колькі слоў і падаўлюся. Нешта ў глытаўцы стане, дух зойме — пык, мык... і няма слоў. І што-б гэта магло быць? А яна засьмяецца й пабяжыць... Толькі капялюшык чырвоны мільгецнь, мільгецнь... І горача неяк зробіцца, быццам цябе нехта кіпенем абліў. Азірнуся, ці хто часам майго сораму ня бачыў, устаўлюся на шыльду на сьцяне каля дзьвярэй тэхнікуму, дзе я амаль кожны дзень пільнаваў Біруту, і чытаю: «Менскі дзяржаўны беларускі пэдагагічны тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага». Прачытаю й ізноў пачынаю: «Менскі...» І колькі разоў так здаралася. Сябры ўжо пачалі падсьміхвацца: «Алесь, што ты, як карункавая паненка, у шыльду глядзішся? Прыгожы й так... Нінка па табе дурэе...» Асабліва дапякаў Янка Язэпчык, найлепшы сябра. Ён і сам на Біруту вока меў, але стараўся датрымацць нашу ўмову: «Не падстаўляць сябру нагу, а падтрымоўваць пад руку...» Янка не вельмі датрымоўваў гэтую ўмову. Праўда, гневацца няма чаго: да Біруты ён не чапляўся, але падсьміхваўся зь мяне, даючы зразумець, што Біруta мяне не кахае. «Ніна, — кажа, — па табе дурэе». Ні разу не сказаў: «Біруta па табе дурэе». Няхай-бы хоць сказаў: «Біруta цябе, бадай, паважае» ці «мае на ўвазе...» Дык не. Пра Біруту ні слова, а ўсё пра Ніну. Гэта пра Васілевіч Ніну. Яна сапраўды мяне кахала, але што я мог зрабіць, калі ня мог адказаць ёй узаемнасьцю? Яна й прыгожая, і добрая, але вельмі-ж мізэрненькая на выгляд. А яшчэ — ножкі крывыя. Тады, увосень, пры капаньні бульбы ў Сьляпянцы, — аж два тыдні ўвесь тэхнікум на «парыве» парыўся, — яна была ў паліто, і я яе добра не разгледзеў. А як прыйшла вясна, ды ўбачыў Ніну без паліта... О, Божа мой!... Ножкі тоненькія ды павыгінаныя ў каленях, як у Будзённага...
А яшчэ Янка дапамагае: намаляваў Ніну на кані й падпісаў — «Першая конная... Ха-ха-ха!..» Бедны Янка. Прыпомнілі, казаў, на допыце й гэты малюнак. Думаў нядобрае пра мяне. Але-ж дарма: у мяне пра яго ні разу й ня пыталі. Ня ведаў я нават, што ён арыштаваны. Ніна, бадай, ад злосьці на яго данесла. Яна-ж у гэтым «фаху» працавала. Уладзік аб гэтым мне пад сакрэтам казаў. Ён, сакратар камсамольскай арганізацыі, ведаў, хто з камсамольцаў чым займаецца. «Сьцеражыся, — кажа, — Алесь, Ніны...» Позна папярэдзіў... Ніна шмат чаго ад мяне даведалася. Яна-ж заўсёды, як толькі спатыкаемся, пытала: «А дзе ты быў? А зь кім бачыўся? А што Сяргей Гарэйка піша? А чаму ён заўсёды любіць дэклямаваць:

**«Луна стоит на капитанской вахте,**
**На триста верст рассыпался прибой...**
**И, словно белая трепещущая яхта,**
**Уходит женщина, любимая тобой».**

А што піша Сяргей Русаковіч? А чаму ён назваў сваё апавяданьне — «Крумкачы»? Што?... Што?... Што?...

Біруta не такая. Не падобная зусім на Ніну. У яе ножкі, як верацёнцы, і вочы, як васількі, і вусны... Эх, ды што казаць. Кругом, як лялька. І ня выпытвае. Усё маўчыць ды нешта думае. Ане, возьме гітару ды як ударыць па струнах... Страсяне залацістымі косамі, узьніме вочкі-васількі ў столь і ціха, ціха засьпявае:
**«Ня кувай ты, шэрая зязюля,**
**Сумным гукам у бары...»**
Колькі разоў я рашчульваўся да сьлёз ад гэтай песьні. А колькі разоў сядзеў зь ёю ў інтэрнаце каля вакна. Яна любавалася месячыкам ды зорамі, а я любаваўся ёю. Ня мог налюбавацца. Тыя хвіліны былі самымі найшчасьлівейшымі ў маім маладым жыцьці. Шчасьце, кажуць, вельмі кароткае. Так, гэта праўда. Было гэта, здаецца, у сыботу. Ляжу ў ложку. Ціха ў пакоі. Усе хлопцы пайшлі на паказ у клюб. А мне ня хочацца йсьці, бо сяброўка Біруты Анжэліка сказала, што Біруta ня пойдзе. А бязь Біруты мне там ня цікава. Ляжу й думаю, чаму-ж Біруta ня хоча йсьці? Што здарылася? Яна-ж ніколі ніводнага спэктаклю не прапусьціла. І вось у гэты час скрыпнулі дзьверы. Гляджу, на парозе Янка... Бляды нейкі, разгублены.

— Алесь, бяжы!.. Біруta...
— Што зь ёю? Дзе яна?
— На Камуністычнай... Плача...
— Што зь ёю здарылася?
— Ня ведаю. Не дапытацца. Можа цябе паслухае, скажа...

За якіх пяць хвілін я ўжо быў на Камуністычнай. Біруta стаяла каля дашчанага плоту, упёршыся ілбом у скрыжаваныя на плоце рукі. Яна ўжо, мабыць, зьнемаглася плакаць, бо голасу не падавала, толькі час ад часу моцна ўздрыгвала й сьцепвалася ўсім целам, як ад холаду. Месяц, адзін сьведка Біруцінай роспачы, серабрыў раскіданыя ў беспарадку па белай блюзцы косы. Паціхутку я паклаў ёй на плячо руку. Плячо было мокрае й гарачае. Біруta нібы й ня чула. Гэта быў першы выпадак, што яна не зарэагавала на дотык да яе цела. Акрылены гэтым, я моцна прыціснуў яе да сябе. Яна нібы прачнулася, крутанулася да мяне тварам. Буйныя сьлёзы, як дыямэнты, сыпаліся з вачэй.

— Біруta, даражэнькая!.. Што з табою?

Яна захісталася і, як падкошаная, упала на мяне. Я падхапіў яе пад рукі.

— Бірутачка, ня трэба так забівацца! Скажы, што здарылася? Можа, я дапамагу табе?... Скажы?!..

Яна маўчала. І я стаў яе цалаваць: у косы, у плечы, у вочы... Як доўга я яе цалаваў, ня ведаю. Мабыць, доўга. І нічога не даведаўся. Сказала толькі:

— Усё прапала, усё...

Пра прычыну сьлёз Біруты я даведаўся пазьней. А тады, у панядзелак, яна на заняткі ня прыйшла. І ў аўторак, і... ніколі. Як у ваду канула. Кануў і я ў нейкую бездань, страціў усялякую радасць і надзею. Што я толькі тады не перадумаў, а дадумацца да нічога ня мог. Думалася самае горшае. А Янка падліваў алівы ў вагонь: «Эх, ты!.. Чые бычкі, а чые цялёткі... Вось і ўся разгадка...» — «Не, Янка, Біруta не такая», — пярэчыў я сябру, бо ніколі ні зь кім я яе ня бачыў. Праўда, да таго, як Біруta прыехала жыць у інтэрнат на Камуністычнай, я меў на воку яе толькі ў будныя дні, у часе заняткаў. Як яна праводзіла час пасьля заняткаў, ведала толькі яна. Можа які нягоднік і насьмяяўся?

Спаткаў неяк Анжэліку, сяброўку Біруты. Адразу-ж пачаў пра тое, што баліць:

— Анжэліка, ты ведаеш, што я кахаю Біруту?
— Ведаю...
— Дык ты ведаеш, што зь ёю сталася. Скажы!
— Нічога зь ёю ня сталася... Дрэнна чуецца й усё.

— Анжэліка, не мані!.. Я ўсё ведаю сам, але хацеў праверыць цябе, якая ты дзяўчына. Ты прыгожая таксама, як і Біруta... І падабаешся мне, але... з манюкамі я болей сустракацца не хачу... Бывай!..

Недалёкая Анжэліка затрымала мяне за руку.

— Не кажы так, бо пакрыўджуся!.. Я не хацела казаць праўду, бо Біруta прасіла. Нават табе пакуль што прасіла не казаць. Але, калі ты такі... Калі толькі паміж намі, дык скажу... Біруta перайшла ў Музычны тэхнікум... Задаволены?..

— Ня зусім, але дзякуй і за гэта! А чаго яна перайшла, ня ведаеш?

— Гэта ты ўжо ў яе папытаешся...

«Цікавая сымфонія — ад сьлёз да музыкі... Тут нейкі выкручасты скрыпічны ключ. Трэба яго неяк разагнуць», — думаў я, ідучы ў Музычны... Але й на гэты раз «ключ разагнуць» не ўдалося. Біруту я знайшоў адразу. Патрапіў якраз на перапынак. Яна сама ўбачыла мяне першая і клікнула. Я нібы ня чуў, прастую далей па калідоры. Трэба-ж паламацца для прыклёпу. Дагнала... Ну, і перапрасіла за сваё «некарэктнае захаваньне». Эх, бедная Біруta! Я сам гатоў быў перапрасіць цябе за свае брудныя думкі. Ты-ж такая, як і была: чыстая й недакранальная... А Янку дам, будзе ён ведаць, як выдумляць. Біруце я не сказаў пра ўсё, што пра яе думаў і што Янка плявузгаў.

Ізноў жыцьцё маё пайшло бадзёрым крокам пад гукі піяніна й ціхія задушэўныя напевы каханай Біруты. Амаль кожны вечар я хадзіў у Музычны. Яна чакала мяне, брала за руку і вяла ў вялікую парожную аўдыторыю. Там садзілася за піяна й пачынала свой «канцэрт». Сумам і безнадзейнасьцю зьвінелі струны піяна на жаданьне Біруты. Вясёлага Біруta іграць не магла. На маю просьбу: «Штось вясёленькае», — Біруta пакачала галавою: «Не прасі, не магу...» І заплакала... Болей я «вясёленькага» не прасіў. Яна ў задуме перабірала пальцамі клявіятуру, а я стаяў ззаду, паклаўшы рукі на сьпінку крэсла, на якім яна сядзела, і думаў: «Пацалаваць яе ці не чапаць, каб не пакрыўдзілася...» Не асьмеліўся. Толькі апошні раз дайшло да гэтага. І то яна першая.

Было гэта ў нашым тэхнікумаўскім клюбе ў дзень 15-й гадавіны Чырвонай Арміі. Тэхнікум наш трымаў шэфства над Менскім артдывізіёнам. І вось для чырвонаармейцаў мы падрыхтавалі канцэрт. Удзельнічаў і я ў п'есе «Граніца на замку». Запрасіў я на канцэрт Біруту. Яна не абяцала, што прыйдзе. Нялюбы быў мне й канцэрт той, але адмовіцца было ўжо позна. І вось я на сцэне... Праз дзірачку ў заслоне ўглядаюся ў залю. Амаль усю залю запоўнілі чырвонаармейцы. Студэнты стаяць паўз сьцяны, каля дзьвярэй пры ўваходзе. Усё яшчэ заходзяць, некаторыя прымошчваюцца на вокнах... А Біруты няма. І канцэрт наш пачаўся й закончыўся, а яна ня прыйшла. Аркестра зайграла вальс «На сопках Манжурыі». Прыкідваю на вока, каго са студэнтак папрасіць танцаваць. Стрыгу вачыма адну, другую — і ў дзьвярох зачырванеў знаёмы капялюшык... Біруta!.. Прыйшла!.. Я кінуўся да яе, як утрапёны, і ледзь ня зьбіў з ног нейкага тыпуса ў хромавай тужурцы, што йшоў наперадзе Біруты. Той пільна паглядзеў на мяне, нешта буркнуў пад нос і пайшоў праз залю, кагосьці шукаючы вачыма. Я прывітаўся зь Бірутай і запрасіў на вальс. Яна не адмовілася. І хутка мы закружыліся... О, які гэта быў прыгожы вальс! У мяне ўсё кружылася ў галаве ад шчасьця, ад радасьці. Я шукаў вачыма Янку, хацеў, каб ён пабачыў, зь кім я танцую. «Каго ты так шукаеш?» — пачуўся ціхі, але назадаволены голас Біруты. Я зірнуў ёй у вочы, мацней прыціснуў да сябе й хацеў сказаць, каго я шукаю, але ў гэты момант нехта пакратаў мяне за правае плячо. І аркестра змоўкла. Я азірнуўся й спыніўся. Перада мною стаяў той, якога я ледзь ня зьбіў з ног. Ён, мне здалося, быў «пад добрай мухай». «Напэўна разьлічыцца са мною хоча», — мільганула думка, але тыпус перакрэсьліў яе пытаньнем:

— Вы будзеце Алесь Нядоля?

— Так, я той самы Нядоля.

— Пойдзем са мною на двор, я маю штосьці сказаць.

— Біруta, ідзі пасядзі, я зараз вярнуся! — А сам думаю: «Я табе пакажу, братка, як чапляцца. Хоць ты й здаравейшы за мяне выглядаеш, але я добра «насабачаны» ў прыёмах французскай барацьбы. Так шпурну, што цераз клюб гэты пераляціш.
— Хадзем, — кажу. А ён:

— Захапі паліто, прыдасца...

Тут толькі нешта нядобрае кальнула мне ў сэрца, і мурашкі па сьпіне забегалі. А Біруta?.. Біруta не адышла ад мяне. Яна стаяла, слухала і, мабыць, раней за мяне здагадалася, куды павядзе мяне гэты тыпус, бо сьлёзы заіскрыліся ў яе на вачох, і яна кінулася мне на шыю й пачала цалаваць. О, якія гэта былі пацалункі! Маланкі хіба могуць так пранізваць усё цела й апякаць да сьмерці. Да сьмерці будуць мяне, мабыць, пячы ды саграваць першыя й апошнія пацалункі Біруты. Бадай і таму работніку ГПУ горача стала, бо адвёў погляд убок і леваю рукою паслабіў на шыі гальштук. Правую руку ён трымаў у кішэні. Нарэшце сказаў:

— Пайшлі, давольна!..

Гэта быў загад. Я правёў Біруту да крэсла. Яна ня села, а ўпала на крэсла. Да яе падбегла Анжэліка й яшчэ якаясь дзяўчына. А аркестра йзноў зайграла, нібы пахавальны марш, сумны й балючы... На дварэ мяне чакалі двое ў форме ГПУ... Чакалі пакуты, «амэрыканкі», начныя допыты, голад і далёкая страшная дарога ў Далёкаўсходні канцлягер...

**(Заканчэнне будзе).**




## ДЗІВАКІ? ХТО ВЕДАЕ...

Прапанову дырэктара мінскай музычнай школы № 1 Уладзіміра Гуртатоўскага адкрыць на базе іх навучальнай установы нядзельна-вячэрнюю школу ў калектыве некаторыя ўспрынялі з доляй скепсісу.

— Вучыць музыцы дарослых? І пальцы ў іх ужо не такія спрытныя, і слых не такі востры... Ды і каму патрэбна музыка, калі жыццё кожны дзень падкідвае ўсё новыя праблемы? Школы бізнесу — вось на што сёння мода і павышаны попыт... Але, на здзіўленне, на апублікаванае ў газеце «Вячэрні Мінск» запрашэнне ў нядзельна-вячэрнюю школу адгукнуліся больш за пяцьдзесят чалавек! Вельмі ўзрадавалася такому запрашэнню студэнтка радыётэхнічнага інстытута Оля Сцешыч. Філарманічныя канцэрты, спектаклі ў оперным тэатры — без іх яна даўно ўжо не ўяўляе свайго жыцця. Але адна справа слухаць іншых, другая — атрымаць магчымасць навучыцца хаця б нешта выконваць самой. Тым больш і інструмент дома ёсць.

Ці не складана з невялікай стыпендыі выкройваць штомесяц на аплату навучання?

— Складана, вядома, — гаворыць Оля, — але ў наш нестабільны час траціць на тое, каб атрымаць веды — самы надзейны ўклад капіталу. Гэта абавязкова прынясе дывідэнды, калі не мне самой, то маім дзецям...

Павел Шмакоўскі таксама не мае ілюзій, быццам заняткі ў школе дазволяць яму стаць прафесіяналам. Але што напоўняць жыццё святлом, творчасцю — упэўнены. І таму пасля нялёгкага працоўнага дня (працуе ён «медбратам» у трэцяй клінічнай бальніцы, рыхтуецца да паступлення ў медыцынскае вучылішча) знаходзіць час і сілы вучыцца іграць на трубе.

...Іх больш за пяцьдзесят — будучы педагог і токар, урач і архітэктар... Усе розныя і ў той жа час нечым вельмі падобныя адзін да аднаго... Некалькі разоў на тыдзень, адклаўшы ўбок справы, яны выкройваюць час, каб на гадзіну-другую апынуцца ў свеце музыкі, у свеце Моцарта, Баха, Чайкоўскага, дзе ўся мітусня сённяшняга дня адступае і дзе, дзякуй Богу, зусім іншыя каштоўнасці.

— Дзівакі, — скажа нехта. А можа — мудрацы, самі таго не ведаючы? Свет жа без такіх чорна-белы.

**НА ЗДЫМКАХ:** з ліста; заняткі па сальфеджыо вядзе з Аленай ЦЫРОК педагог Таццяна АФОНІНА.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.



# ЁН ВЫБРАЎ САМУЮ ЦЯЖКУЮ ДАРОГУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

філалогіі, пасаджаны на нейкі час у Маскве ў Міжнародным аграрным інстытуце працаваць па аграрных пытаннях Польшчы і Прыбалтыкі, Тарашкевіч затым у 1937 годзе быў арыштаваны і закончыў жыццёвых шлях у засценках сталінскага ГУЛАГа.

Браніслаў Тарашкевіч рыхтаваўся служыць свайму народу перш за ўсё на ніве філалогіі, але ён падпарадкоўваўся патрабаванням часу і рабіў тое, што вымагалі акалічнасці. Ён стаў змагаром-палітыкам. Як філолаг, ён не паспеў ажыццявіць многіх сваіх планаў: не паспеў напісаць задуманую ім «Гістарычную граматыку беларускай мовы», не пабачыў надрукаванымі свайго «Сінтаксіса беларускай мовы» і зробленых у турме перакладаў Гамеравай «Іліяды» і Міцкевічавага «Пана Тадэвуша». Але ён усё ж паспеў зрабіць бадай галоўнае — выдаць «Беларускую граматыку для школ». З існуючай практыкі і з гутарак з выдаўцамі «Нашай нівы» ведаў, наколькі важнай для кансалідацыі нацыянальных сілаў з'яўляецца ўпарадкаваная літаратурная мова, наколькі неабходнай стала яе нармалізацыя. Таму Тарашкевіч з адабрэння сваіх нашаніўскіх апекуноў паступае ў Петраградскі універсітэт з намерам, як сведчыць яго перапіска з Янкам Купалам і Цёткай, прысвяціць сябе менавіта гэтай працы. Вярнуўшыся ў Вільню ў 1918 годзе, дзе к таму часу быў высокаарганізаваны нацыянальны беларускі рух, выдаў сваю «Беларускую граматыку для школ». Яна выйшла лацінскім і неўзабаве кірыліцкім шрыфтам. Менавіта гэтая першая граматыка перавыдавалася яшчэ ў 1919, 1920, 1921 і 1931 гадах. А будучы ў 1928 годзе ў турме ў Грудзёндзы, Тарашкевіч карэнным чынам перапрацаваў сваю граматыку, значна пашырыў і дапоўніў матэрыялам, нават часткова ўдасканаліў тэрміналогію, і ў 1929 годзе яна выйшла ў Вільні як пятае выданне «Беларускай граматыкі для школ». Гэты варыянт кнігі быў перавыдадзены яшчэ і ў 1943 годзе ў Мінску. Асобнай брашурай у 1941 годзе ў Мінску быў выдадзены раздзел «Правапіс» з выдання 1929 года з прадмовай 1928 года да кнігі.

Граматыка Тарашкевіча вызначалася грунтоўнасцю ў распрацоўцы кожнай моўнай з'явы, вялікім ахопам гэтых з'яў. Яму ўдалося пазбегнуць суб'ектывізму ў адборы норм літаратурнай мовы. А гэта стала магчымым таму, што ён дасканала абагульніў існуючую пісьмовую практыку на беларускай мове, улічыў традыцыі пісьма, якія к таму часу мелі амаль стогадовую гісторыю. У прадмове ён адзначыў, што, «пакінуўшы даўно парваныя і заняпаўшыя традыцыі старасвецкае беларушчыны, мова новага пісьменства адразу пачала буйна ўзрастаць з народнага карэння. А народнае карэнне — яно вельмі багатае». Ён добра разумеў, што «граматыка павінна толькі замацаваць і падраўняць тыя лініі, якія сама мова ўжо назначыла». Адпаведна гэтаму Тарашкевіч і прапанаваў фанетычна-правапісныя і граматычныя нормы, якія, за нешматлікімі выключэннямі (зменамі), існуюць у нашай літаратурнай мове і сёння. У аснову правапісу пакладзены пераважна фанетычны прынцып для галосных і фанемна-марфалагічны (этымалагічны) для зычных: «Галосныя пішуцца так, як вымаўляюцца (гукавая або фонэтычная аснова)... Зычныя, наадварот, пішуцца гледзячы на паходжанне (этымолёгію) слова». Асобае месца займаюць запазычаныя словы, якія Тарашкевіч разглядае асобна (§ 25 па выданню 1929 года). Іх ён дзеліць на даўно запазычаныя і новыя запазычанні. Першыя падпарадкоўваюцца фанетычным законам, а значыць і правапісу, як свае, а «чужаземныя словы, якія нядаўна ўвайшлі ў беларускую мову, асабліва-ж навуковыя тэрміны, пераважна перадаюцца, па магчымасці, так, як у тэй мове, скуль яны ўзятыя: **тэлеграф, тэлеграма, колёквіум, географія, геометрыя, тэрыторыя, універсытэт, эволюцыя, элемент, інтэлігенцыя і г. д.».**

На марфалагічным узроўні ўплыву запазычаных слоў не адчувалася, таму прапанаваныя ім нормы вытрыманы больш паслядоўна, цалкам у згоднасці з «прынятай традыцыяй». Варыянты дапушчаны толькі ў тых выпадках, дзе іх цвёрда замацавала традыцыя пісьма, як напрыклад, **галавой — галавою, ягнят — ягнятаў, касьцямі — касьцьмі, босаю — босай, сіняе — сіняй** і інш.

У адрозненне ад сучаснай, у кірыліцкім варыянце графікі Тарашкевіч прапаноўваў уводзенне знака для **г** выбухнога — **г** (ганак, мазгі). У такім выпадку была поўная адпаведнасць двум знакам (h і g) лацінкі. А для перадачы мяккіх зычных лацінкі (ć, ń, ś, ź), якая мела больш чым стогадовую традыцыю ўжывання ў беларускай пісьменнасці, ён выкарыстоўваў, як гэта ўжо было замацавана ў практыцы, мяккі знак (ь): piśmienstwa — **пісьменства,** značeńnie — **значэньне.**

«Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча так удала абагульніла і вызначыла нормы беларускай літаратурнай мовы, што адразу была прынята беларускай інтэлігенцыяй абедзвюх частак Беларусі — і Заходняй, і Савецкай. На яе аснове, пачынаючы з 1921 года, у Савецкай Беларусі Язэп Лёсік пачаў выдаваць цэлую серыю падручнікаў.

«Беларуская граматыка...» Тарашкевіча адыграла выключна важную ролю ў абставінах, калі набліжалася да рэалізацыі ідэя стварэння, а затым і была створана беларуская дзяржава. У час, калі нацыянальныя сілы Беларусі ва ўмовах войн і падзелу былі ў значнай меры раз'яднаны, гэтая нарматыўная граматыка станавілася важнейшым культурна - аб'яднаўчым фактарам нацыянальнага будаўніцтва. Пісьмовая практыка і школа атрымалі адзіны дапаможнік. Асаблівае значэнне мела тое, што гэты дапаможнік быў прыняты ў Савецкай Беларусі, дзе была аформлена свая дзяржаўнасць. Дзяржава праз свае інстытуцыі, прыступіўшы да ажыццяўлення праграмы беларусізацыі, падтрымлівала функцыяніраванне аднастайнай, унармаванай літаратурнай мовы. А прагрэсіўныя сілы Заходняй Беларусі глядзелі на БССР як на сваю апору ў барацьбе за лепшую долю. Хоць і абмежаваны, але быў абмен абедзвюх частак Беларусі здабыткамі культуры. Адзіная пісьмова-літаратурная мова клала падваліны ў аб'яднаўчы працэс усіх раз'яднаных частак беларускага народа. У гэтым, бадай, асноўнае культурна - гістарычнае значэнне «Беларускай граматыкі...» Б. Тарашкевіча. У 1928 годзе Браніслаў Тарашкевіч быў абраны правадзейным членам АН БССР.

Тарашкевіч добра разумеў, што яго праца — гэта толькі пачатак нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы. Адзначыўшы, што «практыка жыцця і прасвечаная крытыка 10 гадоў прызналі, што ўсё найважнейшае зроблена добра», Тарашкевіч піша: «Але тая самая практыка і крытыка паказалі на некаторыя пахібы, а нават, хоць толькі часткова, і паправілі іх. Аўтар «Беларускай граматыкі для школ» сам цяпер бачыць дужа выразна цэлую чараду яшчэ спрэчных пытанняў (у аканні, у правапісе чужаземных слоў і інш...), бачыць патрэбу і магчымасць спрашчэння правапісу». Так Тарашкевіч сам ставіўся да сваёй працы.

У Савецкай Беларусі, дзе тады беларуская мова набывала правы дзяржаўнай, у кнігах Лёсіка і іншых лінгвістаў дэталізаваліся і пашыраліся прапанаваныя Тарашкевічам прынцыпы нармалізацыі беларускай мовы. А ў 1926 годзе была склікана акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускай графікі і правапісу. Тарашкевіча пілсудчыкі на канферэнцыю не пусцілі, яго думак па канкрэтных пытаннях мы не ведаем. Вынікам канферэнцыі было ўтварэнне спецыяльнай камісіі, якой даручалася падрыхтаваць праект новага зводу правіл правапісу. У 1930 годзе праект быў падрыхтаваны, але хваля рэпрэсій, пад якую трапіла большасць членаў камісіі, прыпыніла работу. Новаму складу камісіі былі зададзены іншыя прынцыпы — на збліжэнне беларускай і расійскай арфаграфіі. І ў 1933 годзе пастановай СНК БССР ад 26 жніўня былі ўнесены змены ў Тарашкевічаў правапіс, дзе ўжо прысутнічалі элементы **класавага падыходу** да моўных з'яў, як, напрыклад, 9 пункт пастановы, які загадваў «інтэрнацыянальныя рэвалюцыйныя словы не падпарадкоўваць агульнаму правілу аб аканні». У Заходняй Беларусі далёка не ўсе прынялі гэтыя змены, былі нават пратэсты. Курс на збліжэнне рускай і беларускай моў у Савецкай Беларусі і процідзеянне яму ў Заходняй парадзілі раскол адзінай літаратурнай мовы, утварыліся два яе варыянты. Гэты раскол праіснаваў да нашых дзён і стаў асабліва шкодным цяпер, калі так неабходна кансалідацыя нацыянальна - культурных сіл для **апошняга адраджэння** нацыі. **Па гэтых** меркаваннях нельга прызнаць карыснымі для нацыі спробы некаторых дзеячаў **любым** спосабам і **цалкам** вярнуць да жыцця правапіс Тарашкевіча. **Адзінства** літаратурнай мовы цяпер, калі некалькі пакаленняў беларусаў карыстаюцца існуючым правапісам, калі ідзе змаганне за фактычнае наданне беларускай мове правоў дзяржаўнай, важней, чым вяртанне **асобных** правіл правапісу. Варта ў гэтай справе прыслухацца да самога Тарашкевіча, які ў 1928 годзе пісаў у прадмове да 5-га выдання сваёй граматыкі: «Аўтар... бачыць патрэбу і магчымасць спрашчэння правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя змены **такім індывідуальна - партызанскім спосабам.** (Падкрэслена мною. — І. К.). Гэта павяло б толькі да шкоднага хаосу... Адпаведныя праекты... павінны прайсці праз публічнае сіта грамадскай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзенымі ў жыццё аўтарытэтам культурных установаў». Так адносіўся сам Браніслаў Тарашкевіч да «тарашкевіцы».

**Іван КРАМКО.**

## З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# СЫМБОЛІКА І АЎТАРЫ МАРАК БНР

У энцыкляпэдычным даведніку «Францыск Скарына і яго час» (Менск, 1988) да артыкулу «Філятэлія і філякартыя» зьмешчаная ілюстрацыя — паштовая марка з партрэтам Ф. Скарыны. Гэта, думаецца, адна зь першых трох марак, выпушчаных урадам БНР у 1918 годзе. Марка з Ф. Скарынам з дэнаміналам 2 рублі, іншыя былі з выяваю «Пагоні» (3 рублі) і аратага (5 рублёў).

Бальшыня дасьледнікаў пагаджаюцца на тым, што гэта — самыя раньнія паштовыя віньеткі БНР. Такое меркаваньне падтрымліваецца чыста беларускім характарам малюнкаў на марках. Маркі гэтыя прызначаліся для ўжытку па цэлай Беларусі, у адрознасьць ад БНР-аўскіх марак «Асобнага Атраду», выдадзеных у Рызе ў 1920 годзе. Што да даты выпуску й месца друку гэных найпершых марак, дык тут паўстаюць разыходжаньні.

На думку брытанскага дасьледніка Гая Пікарды, пастанова аб іхным выданьні магла быць прынятая ў Менску 19—21 лютага 1918 г., калі быў створаны першы Народны Сакратарыят (урад) Беларусі на чале зь Язэпам Варонкам. З усіх сямёх урадаў БНР пэрыяду 1918—1925 гадоў толькі ў першым быў міністар пошты й тэлеграфу А. Карач.

Што да аўтараў рысункаў, дык рысунак скарынаўскае маркі мог быць узяты з паштоўкі 1917 году, калі адзначаліся 400-я ўгодкі ад выхаду Скарынавага перакладу Бібліі. Тады ў ведамай друкарні М. Кухты ў Вільні выйшла паштоўка з партрэтам Скарыны, выдадзеная Беларускім Выдавецкім Таварыствам. У Вільні было даволі мастакоў і крыніцаў беларускае гісторыі, каб замовіць там зь Менску пасьля сакавіка 1918 году, калі фронт пайшоў далёка на ўсход, і беларускія маркі.

На Вільню, як месца выданьня марак, паказвае таксама й марка з аратым. Аўтарам рысунку яе мог быць адзін з найбольш таленавітых мастакоў Фэрдынанд Рушчыц (1870—1936), які паходзіў з Багданава на Валожыншчыне з каталіцкае сям'і і ўважаў сябе за «тутэйшага».

Рушчыц у сваёй творчасьці шмат увагі прысьвячаў тэмам зямлі і вясковага быту. Імя Рушчыца фігуруе ў каталёгах сьвету, як рысавальніка паштовых марак. Нарысаваная ім марка для эфэмэрнай дзяржавы «Сярэдняй Літвы» (1922 г.), арганізаванае польскім генэралам Жэлігоўскім, вельмі нагадвае БНР-аўскую марку з аратым 1918 году. Дарэчы, вельмі падобны матыў аратага бачым на першым календары «Нашае Нівы» (1910 г.).

Да найбольш прафэсійна выдадзеных марак БНР належыць сэрыя марак, часамі падаваная ў каталёгах Гібанса (S. Gibbons) і інш., з выяваю сялянскае пары і надпісам «Асобны Атрад». Сэрыя гэтых марак выйшла ў пяцёх дэнаміналах (5 к., 10 к., 15 к., 50 к. і 1 руб., адпаведна зялёная, чырвоная, фіялетавая, блакітная і бурнатая). Рысунак гэтае маркі — работа ведамага латыскага гравёра Р. Сарынша (да рэвалюцыі ведамага як Зарын), які рысаваў шмат якія царскія юбілейныя выпускі, а пасьля — латыскія дый савецкія.

Маркі «Асобнага Атраду» выйшлі стараньнямі палкоўніка Кастуся Езавітава (1893—1946), які ўзначальваў ваенную дыпляматычную місію БНР у Латвіі й Эстоніі. Маркі былі прызначаныя для ўжытку галоўна войска БНР, асабліва ў раёне разьмяшчэньня Беларускага батальёну ў Дзьвінску ў усходняй Латвіі (студзень—ліпень 1920 г.).

(«Беларусь, Нью-Йорк).



Незвычайная калекцыя сабрана гамяльчанінам Віктарам Струмпам: цікавыя фігуркі, маскі, выразаныя з мыла. Усяго іх больш за 50. Прычым аўтар усіх работ— сам Віктар Струмп.

Калісьці, пасля заканчэння Гомельскага вучылішча, ён займаўся разьбой па дрэву, потым захапіўся вырабам гіпсавых пано. Цяпер жа ў вольную хвіліну, як гаворыць сам Віктар, для душы папаўняе сваю калекцыю фігурак з мыла.

Цікава толькі, як яму ўдаецца даставаць такі дэфіцытны матэрыял для сваіх вырабаў!

НА ЗДЫМКАХ: Віктар СТРУМП і яго работы.

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.

## СПОРТ

ШАХМАТЫ. Мінчанін Барыс Гельфанд і чэмпіён свету Гары Каспараў падзялілі другое-трэцяе месцы на міжнародным турніры ў Італіі. Пераможцам тут стаў індыйскі гросмайстар Вісванатхан Ананд.

БАРАЦЬБА ВОЛЬНАЯ. На міжнародным турніры на прызы двухразовага алімпійскага чэмпіёна Івана Ярыгіна ў Краснаярску першае месца заняў гамяльчанін Вугар Аруджаў у вагавой катэгорыі да 48 кілаграмаў. Сярэбраным прызёрам стаў яго зямляк Ігар Козыр.

ФУТБОЛ. Дынамаўцы Мінска пачалі падрыхтоўку да адкрытага чэмпіянату Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У таварыскай сустрэчы ў Францыі яны нанеслі паражэнне клубу «Ліён» — 3:0.

КАНЬКІ. Ігар Жалязоўскі з Рэспублікі Беларусь займае другое месца ў розыгрышы Кубка свету. Яго апярэджвае пакуль толькі японскі канькабежац Ташыюкі Кураіва.

## З ЖЫЦЦЯ ЧЭМПІЁНАЎ

**Год назад закончыла спартыўную кар'еру алімпійская чэмпіёнка і чэмпіёнка свету па спартыўнай гімнастыцы Святлана Баітава. Сёння пад яе кіраўніцтвам азы гэтага віду спорту спасцігаюць 5—6-гадовыя дзяўчынкі, якія трэніруюцца ў магілёўскай ДЮСШ алімпійскага рэзерву № 6. Святлана ўжо неаднаразова атрымлівала прапановы працаваць за мяжой. Але пакуль алімпійская чэмпіёнка аддае сілы і раскрывае сакрэты майстэрства сваім юным зямлячкам, якія магчыма гэтак жа, як і яна, змогуць пакарыць вяршыні спартыўнага Алімпа.**



НА ЗДЫМКУ: Святлана БАІТАВА-КАЗЮКОВА ў новай ролі трэнера па спартыўнай гімнастыцы.

Фота С. ЖАЛУДОВІЧА.

*З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ*

## ЦЕРАЗ РЭЧАНЬКУ




Цераз рэчаньку, цераз быструю
Гібка кладачка ляжыць. (2)
Па той кладачцы, па той гібканькай
Малады Іванька йдзець. (2)
А ён Манечку, сваю душачку,
Ён за ручаньку вядзець. (2)
— Ай ты, кладачка, ай ты, гібкая,
Ты не гніся пада мной. (2).
Ай ты, Манечка, мая душанька,
Ты не гневайся са мной. (2)
Пі ты мёд, віно і гарэлачку,
І не будзь ты п'яненькай. (2).
Радзі сем сыноў і дачушачак
І не будзь ты старанькай. (2).
— Вып'ю чарачку-пазлачоначку
І не буду п'яненькай. (2)
Раджу сем сыноў і дачушачку
І не буду старанькай. (2)

# ПРЫЙШЛІ ДА ЗГОДЫ

Цяпер ужо мы можам уздыхнуць з палёгкай: спартсмены былога Саюза прымуць удзел аб'яднанымі камандамі і на зімовых Алімпійскіх гульнях у Альбервілі, і на летніх — у Барселоне. Гэта стала вядома пасля сустрэчы кіраўнікоў спартыўных ведамстваў СНД у Раўбічах, што пад Мінскам.

Удзельнікі сустрэчы дамовіліся стварыць міждзяржаўны Спартыўны савет дзяржаў для каардынацыі падрыхтоўкі каманд на Гульні. Гэты орган будзе распараджацца аб'яднанымі сродкамі, якія знаходзяцца на рахунках ліквідаванага Дзяржкамспорту СССР.

У другой прынятай рэзалюцыі кіраўнікі ведамстваў рэкамендавалі федэрацыям па відах спорту ўтварыць саветы прэзідэнтаў (старшынь) федэрацыі дзяржаў — членаў СНД. Яны атрымаюць права прадстаўляць на міжнароднай арэне каманды, якія будуць удзельнічаць ва ўсіх афіцыйных спаборніцтвах 1992 года. У тым ліку — Алімпіядах.

Яшчэ адна прыемная навіна. Зборныя каманды па футболу былога СССР і Югаславіі заваявалі права выступіць у фінале першынства Еўропы. Пасля вядомых палітычных падзей у гэтых краінах пытанне выступлення каманд было пад сумненнем. І вось днямі Міжнародная федэрацыя футбола афіцыйна дала згоду на ўдзел спартсменаў СНД і Югаславіі ў фінале кантынента. Тут немалая заслуга спартыўных федэрацый былых рэспублік. Яны змаглі ў гэты нялёгкі час праявіць салідарнасць і аб'яднацца ў адзіныя каманды, да вялікай радасці шматмільённай аўдыторыі аматараў спорту.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 107.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12